# ЭКСПРЭС



АДНАДЗЕНКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
Выданьне Аргкам1тэту. Травень (май) 1989

---

## ● ПАУТОРНЫЯ ВЫБАРЫ У МЕНСКУ (а г л я д)

На Беларус1 1 у 1нших рэспубл1ках працягваюцца выбары народных дэпутатау СССР. Пасьля рашучых выступленьняу грамадскасьц1 супраць антыдэмакратычных палажэньняу Закона аб выбарах, акруговыя сходы цяпер амаль н1дзе не праводз1л1ся, нават у нашай Рэспубл1цы -- у Баранав1чах, Гародн1, Гомел1. Аднак менская вандэя 1 у гэтых варунках прадэманстравала свае абл1чча. Тут акруговыя сходы праводз1л1ся, прытым, як 1 раней, з парушэньнем элементарных дэмакратычных 1 законных нормау. Тым ня менш, нельга сказаць, што "вандэйцы" здолел1 поунасьцю ажыцьцяв1ць свае задумы. Яны, вядома, правял1 сва1х стауленьн1кау 1 не прапусьц1л1 прадстаун1коу БНФ "Адраджэньне", аднак прайшл1 кандыдаты, як1х падтрымл1вае Народны Фронт, як1я прых1льныя да народнага руху за перабудову 1 дэмакратыю. Як гэта здарылася, ня будзем распавядаць, каб не вучыць "вандэйцау" розуму.

Па Менскай-Заводскай 65-ай нацыянальна-тэрытарыяльнай выбарчай акрузе зарэг1страваныя чатыры кандыдаты: В.Судас -- член КПСС, сакратар кам1тэта камсамола зь Беларускага дзяржаунага 1нстытута народнай гаспадарк1; Ул.Набока -- член КПСС, начальн1к вытворчага будаун1ча-мантажнага аб'яднаньня "Менскпрамбуд"; М.Замаеу -- член КПСС, наладчык цэха зварк1 каб1н Менскага аутамаб1льнага завода; М.1гнатов1ч -- сьледчы па асабл1ва важных справах Пракуратуры БССР.

Двух першых з гэтых кандыдатау у той ц1 1ншай ступен1 ск1льна падтрымл1ваць апаратная наменклатура. Зь яе боку асноуная увага, в1даць, зьвернутая на кандыдатуру Ул.Набок1 (яму за кароткі час арган1завал1 вылучэньне 27 калектывау). В.Судаса 20-га крас1ка тэлегледачы пасьпел1 ужо убачыць на экране 1 заувамыць ягоную бездапаможнасьць.

У лепшых варунках знаходз1цца М.Замаеу. У яго, як 1 у Ул.Набок1, перадвыбарчая платформа грунтуецца у асноуным на вырашэньн1 сацыяльна-эканам1чных пытаньняу, але, як паказала практыка, станов1шча простага наладчыка выкл1кае больш с1мпатыяу у выбаршчыкау, чым пасада начальн1ка упрауленьня.

Тым часам практыка паказала таксама, што сацыяльны крытэрый пры ацэнцы кандыдата занадта вузк1 1 можа быць памылковы. Важна, каб дэпутат ня тольк1 прадстауляу нейкую сацыяльную групу людзей, але на высок1м 1дэйна-прафес1йным узроун1 умеу 1 мог адстойваць пал1тычныя, сацыяльна-эканам1чныя 1 культурныя 1нтарэсы народа. Тут справа ня так у сацыяльным станов1шчы, як у 1дэйна-пал1тычнай паз1цы1, ведах, вопыце, вол1 1 характары чалавека. З ус1х чатырох кандыдатау так1м патрабаваньням, на наш погляд, найбольш адпавядае М1калай 1гнатов1ч. Ен паказау сябе пасьлядоуным барацьб1том зь несправядл1васьцю, удзельн1чау у раскрыцьц1 г.зв. Мазырскай справы, раскрыу 1 давеу да канца вядомую В1цебскую справу (ад рук маньяка-забойцы, як1 дзейн1чау на працягу 14 гадоу, заг1нула больш 30 жанчын; за гэты час сьледчым1 1 судовым1 органам1, як1я выкарыстоувал1 незаконныя прыемы 1 метады, был1 прыцягнутыя да адказнасьц1 1 асуджаныя 13 бязьв1нных людзей): вызначыу сапрауднага забойцу, вярнуу бязьв1нна асуджаным волю 1 добрае 1мя. Пры гэтым, рызыкуючы жыцьцем, змагауся з карупцыяй, прагн1лай судовай 1 пра-

курорска-мiлiцэйскай рутынай i дамогся перамогi.

М.Iгнатовiч падтрымлiвае асноуныя праграмныя палажэньнi Народнага Фронту, стаiць на пасьлядоунай дэмакратычнай платформе. Галоуныя ягоныя пазiцыi: дэмакратызацыя грамадства, дэмантаж бюракратычнай сiстэмы, стварэньне прававой дзяржавы, плюралiзм грамадскiх i палiтычных арганiзацыяу, гарантаваная сацыяльная справядлiвасьць, радыкальная эканамiчная рэформа у iнтарэсах працоуных, неадкладнае выпрауленьне экалагiчнай сiтуацыi на Беларусi, адраджэньне нацыянальнай культуры, дзяржаунасьць беларускай мовы у БССР, гарантаванасьць правоу чалавека i дэмакратычных свабодау.

Народны Фронт падтрымлiвае тых кандыдатау, якiя прынясуць рэальную карысьць народу, Бацькаушчыне i дэмакратыi. Таму прапануе г а л а с а в а ц ь з а I г н а т о в i ч а. М.Iгнатовiч нарадзiуся у 1940 годзе у сялянскай сям'i, беларус.

Найлепшыя шанцы перамагчы у галасаваньнi мае М.Замаеу, бо большасьць выбаршчыкау галасуе, што завецца, "па бюлетэнi" (па зьвестках, што там зьмешчаныя). Агiтацыяй ахапiць усiх немагчыма. Таму адносiны да пасады кандыдата пры недахопе iнфармацыi могуць стаць вызначальнымi. Як паказала практыка, працоуны люд ня надта сiмпатызуе (i справядлiва) кандыдатам -- "дырэктарам", "начальнiкам" i "апаратчыкам". Выкрэсьлiвае iх. Таму наменклатура iмкнецца знайсьцi сваiх стауленьнiкау сярод рабочых. I часам знаходзiць.

Аднак, трэба ведаць, што сярод дырэктарау i нават пракурорау сустракаюцца выключэньнi -- годныя людзi, што пасьлядоуна супрацьстаяць бюракратычнай сiстэме i бароняць народ. Посьпех такiх людзей на выбарах шмат залежыць ад iнфармацыi i умелай агiтацыi. Групы падтрымкi БНФ, выступаючы за Iгнатовiча, не павiнны забывацца на гэтую акалiчнасьць.

Больш простая сiтуацыя склалася у М е н с к а й - М а с к о у с к а й 564-ай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе (Маскоускi i Фрунзенскi р-ны г.Менска).

С. Ш у ш к е в i ч, прарэктар БДУ па навуковай працы; беларус, 1934 года нарадженьня. Платформа С.Шушкевiча вызначаецца пасьлядоуным дэмакратызмам. Гэта адзiны кандыдат, якi выразна напiсау у сваей праграме: "Дазволiць стварэньне i дейнасьць новых партыяу".

Л. П а у л ю ч ы к, дырэктар праектнага iнстытута "Белдзiпрагаз"; 1941 года нарадженьня, беларус, член КПСС. Перадвыбарчая праграма Л.Паулючыка мае выразную сацыяльную i дэмакратычную скiраванасьць. Шмат якiя палажэньнi гэтае платформы кандыдат практычна усталеувае у iнстытуце, якiм кiруе.

А. Ц е р н а в ы, загадчык кафедры фiласофii Менскага педiнстытута; 1933 года нарадженьня, рускi, член КПСС.

В. Ш л ы н д з i к а у, дырэктар менскага завода "Ударнiк"; 1947 года нарадженьня, беларус, член КПСС.

Абодва апошнiя кандыдаты раней працавалi у сiстэме дзяржауных i партыйных установау. Магчыма, гэтым можна растлумачыць прыхiльнасьць да iх менскага наменклатурнага начальства (асаблiва да В.Шлындзiкава, якi нават не прысутнiчау на акруговым сходзе, i тым ня менш "завочна" быу зарэгiстраваны кандыдатам; адпаведны падбор удзельнiкау i вядзеньне схода гэтаму паспрыялi). Перадвыбарчая платформа В.Шлындзiкава -- тыповая апаратная агульшчына ("повысить", "улучшить", "выполнить", "решить вопрос" i г.д.). Вось напрыклад: "Решительно взяться за выполнение решений 19 Всесоюзной партконференции, в частности, по вопросам преодоления бюрократических методов управления, активного преобразования функций и стиля работы министерств и центральных ведомств". Тут мара усей бюракратыi: "преобразовать" функцыi i стыль, але астатняе пакiнуць, як было.

Беларускі Народны Фронт падтрымлівае С. Ш у ш к е в і- ч а і Л. П а у л ю ш ч ы к а. Групы падтрымкі БНФ агітуюць і будуць спрыяць ім на выбарах. Такое рашэньне не здаецца нам рызыкоуным. Бо зразумела, што галасаваньне пры чатырох кандыдатах будзе хутчэй за усе у два этапы. Калі у другі этап пройдуць абодва гэтыя кандыдаты -- нашая мэта дасягнутая. Застанецца толькі забясьпечыць кворум выбаршчыкау на паўторнае галасаваньне. Папярэдні этап выбарчай кампаніі паказвае, аднак, што большасьць групау падтрымкі схільныя падтрымліваць С.Шушкевіча, платформа якога больш радыкальная і дэмакратычная.

На заканчэньне яшчэ раз пра правілы галасаваньня. Бюлетэнь б у д з е с а п р а у д н ы тады, калі у ім пакінутае прозьвішча а д н а г о кандыдата, альбо не пакінутае н і- в о д н а г а. Гэта значыць, што незалежна ад таго, колькі прозьвішчау есьць у бюлетэні (адно, пяць, сем і г.д.), Вы можаце выкрэсьліць усіх і бюлетэнь будзе залічаны. Але ен будзе н е с а п р а у д н ы, калі Вы пакінеце у ім б о л ь ш ч ы м а д н о прозьвішча. Запомнім яшчэ раз: пакідаем а д- н о прозьвішча, альбо не пакідаем н і в о д н а г а.

Паўтараем гэтую перасьцярогу, бо у многіх месцах на Беларусі і у Менску прадстаунікі камісій на участках няслушна інфармавалі выбаршчыкау. Яны раілі абавязкова пакідаць адно прозьвішча, хаваючы ад недасьведчаных іхнюю магчымасьць выкрэсьліць усіх кандыдатау.

Па даручэньні Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне"
Зянон Пазьняк.

## ● ХРОНІКА

24 с а к а в і к а. У Доме літаратара, прыблізна каля 23.00 -- 24.00 быу зроблены несанкцыянаваны пракурорамператрус (вобыск) службовага кабінета члена саюза пісьменьнікау БССР, сябра Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне" Алеся Емяльянава. Гаспадар памяшканьня ня быу запрошаны узяць удзел у гэтай акцыі. Ахоунікі правапарадку узламалі два замкі і без законных падставау канфіскавалі каля 10 тыс. экземплярау "Навінау БНФ". Як высьветлілася, шукалі бомбу...

Але у сьвятле таго, што назаутра мусіу адбыцца масавы мітынг, на якім выданьне было б распаусюджанае, гэты налет на штаб-кватэру Народнага Фронту і канфіскацыя перадвыбарчых агітацыйных матэрыялау набывае характар знакамітай уотэргейцкай справы. Можам гаварыць цяпер пра свой "Фрунзегейт", бо некантралюемая апаратам прэса пад час выбарау сталася сапраўднай "бомбай" пад фундамент бюракратычнае сістэмы.

Падаем копію пратакола, пакінутага у Доме літаратарау:

АКТ

Я, начальник ОООП Партизанского РОВД г.Минска, капапітан милиции Подлинский С.В., в присутствии попонятых:
Борзенко В.В., прож. ул. З.Бядули, 8-25,
Левин Д.М., ---------"--------- 8-1,
директора Дома литератора СП БССР Железовского А.П.,
завхоза Малиновского И.И.,
в связи с поступившим телефонным звонком о том, что в Доме литетора в комнате 306 в пакетах с бумагой имеются взрывоопасные вещества, с участием работни- СВПЧ-12 Митявко В.П. произведено обследование кабинета 306.

В результате обследования выявлено около 10 тыс. экземпляров самиздатовской литературы БНФ "Адраджэньне". Литература изъята в РОВД для дальнейшего разбирательства.

Начальник ОООП (подп1с) Подлинский
Зам. нач. СВПЧ-12 (подп1с) Митявко
Понятые: (подп1с) Борзенко
(подп1с) Левин

Трэба думаць, што праведзеная прадстаун1кам1 МУС акцыя, была запланаваная на больш высок1м узроун1, бо кал1 праз некальк1 дзен А.Емяльянау зьвярнууся у пракуратуру, а 19 красав1ка адбыуся агульны сход Саюза п1сьменьн1кау БССР, на як1м была прынятая рэзалюцыя з асуджэньнем незаконнага учынку праваахоуных органау, у газеце "Вячэрн1 М1нск" 26 красав1ка зьяв1уся артыкул, дзе крытыкуюцца праграмныя палажэньн1 БНФ "Адраджэньне" 1 увесь масавы рух за перабудову, роб1цца спроба апраудаць антыканстытуцыйную 1 амаральную канф1скацыю. Прычым, ан1м-шчык1 выкарыстоуваюць стары апрауданы прыем адкрытай падтасоук1 фактау, спрабуючы выдаць шырок1 народны рух за групку "нефармалау" 1 "экстрэм1стау". Хто ж так1я сапраудныя экстрэм1сты, гатовыя парушыць любы закон дзеля захаваньня асаб1стае улады 1 прыв1леяу, добра 1люструюць апошн1я падзе1 у Рэспубл1цы: "Дзяды" 30 кастрычн1ка, шматл1к1я парушэнн1 Закона аб выбарах, спробы разьвязаць м1жнацыянальную варожасьць (у т.л. 1 у памяненай вышэй анан1мнай публ1кацы1), няспынная кампан1я цкаваньня усяго новага, што выпадае за рамк1 бюракратычнага "парадку".

26 к р а с а в 1 к а. У трэцюю гадав1ну Чарнобыльскай трагеды1 Аргкам1тэт Беларускага Народнага Фронту, групы падтрымк1 БНФ 1 прадстаун1к1 грамадскасьц1 праводз1л1 "Гадз1ну смутку 1 маучаньня". Улады БССР паусюдна не дазвол1л1 адзначыць гэтую жалобную падзею. Неверагодна, але факт. Зрэшты, беручы пад увагу ранейшую 1хнюю пал1тыку, зьдз1уляцца ужо не выпадае. Найбольш па-экстрэм1сцку паводз1л1 сябе бабруйск1я гарадск1я улады. Людзей, што маукл1ва стаял1 з запаленым1 сьвечкам1 на плошчы Лен1на, зьневажал1, м1л1цыя 1мкнулася 1х затрымаць, был1 падагнаныя нават сьпецыяльныя аутобусы. Адз1н функцыянер выкручвау рук1 шаснаццац1гадовай дзяучыне. М1л1цыя адб1рала апаратуру у тых, хто фатаграфавау, зьб1ла за гэта падлетка. Тады умяшал1ся 1ншыя людз1. Гэта дазвол1ла прадоужыць "Гадз1ну смутку" па ахвярах Чарнобыля.

Штосьц1 падобнае адбывалася 1 у Гомел1.

Увечары у Менску на плошчы Лен1на сабралося каля 8 -- 10 тысячау чалавек. Стаял1 моучк1 з чорным1 сьцягам1 1 харугвам1 са знакам радыяцы1 1 назвам1 пацярпелых гарадоу. У ц1шын1 гарэл1 сьвечк1 1 падау на дол гарачы воск, кожныя сем секунд зван1у чарнобыльск1 звон. Чорны крэп, жалобныя павязк1 1 стужк1, плакаты: "Мае маучаньне -- спачуваньне тым, хто пасьпеу чарнобыльскай ахвярай стаць: 1 тым, хто умер, 1 тым, хто хворы, 1 тым, хто будзе пам1раць!".

А кал1 скончылася жалобная гадз1на, шмат хто пак1нуу на плошчы сярод цюльпанау запаленыя сьвечк1. 1 доуга гарэл1 яны сотням1 агнеу, н1бы душы людск1я...

Памятаючы 30-га кастрычн1ка 1 ведаючы рэакцыйнасьць менскай вандэ1, непрыманьне ею усяго людскага, Аргкам1тэт БНФ "Адраджэньне" нак1равау адпаведныя тэлеграмы у Савет М1н1страу СССР, Пленуму ЦК КПСС, М.Гарбачову 1 1нш. з 1нфармацыяй пра станов1шча у горадзе.

Тым часам а 17.00 на плошчу Лен1на пачал1 звоз1ць драуляныя афарм1цельск1я шчыты, нейкае жалезьзе, падагнал1 машыны, пад'емныя краны, прыслал1 духавы аркестр, як1 пачау труб1ць. За педагаг1чным 1нстытутам 1 у дварах схавал1 аутобусы зь м1л1цыяй, машыны з закратаваным1 вокнам1. М1л1цэйск1я узвады был1 разьмешчаныя нават у холах Дома Ураду!

Аднак ужыць с1лу у Менску не насьмел1л1ся. Напэуна, адыграла ролю, з аднаго боку, колькасьць людзей, якая сабралася

на "Гадзіну смутку", а з другога -- неспадзяваныя вынікі Пленума ЦК КПСС, дзе не адбылося чаканага вандэйскага перавароту, і апаратчыкі на хвіліну разгубіліся. Вайскоўцы і міліцыянты ветліва дазволілі людзям прайсьці ў цэнтр плошчы. А адзін дык нават прастадушна папярэдзіў праз мегафон: "Со стороны милиции провокаций не будет". І за гэта дзякуй. Па усім відаць, што міліцыі таксама абрыдла выконваць дурныя распараджэньні і кідацца на людзей, сярод якіх жывуць... Зрэшты, назаўтра зноў пасыпаліся загады і указаньні. І усіх, хто стаяў на плошчы і каго удалося "пазнаць" па фатаздымках, пачалі выклікаць позвамі ў Маскоўскае аддзяленьне унутраных справаў, "допрашивать", складаць пратаколы, пужаць і зьневажаць. Паміж іншымі "допросили" і аўтара артыкула пра падзеі 30 кастрычніка у Менску ("Век XX и мир", сакавік 1989) Яўгена Будзінаса: "С какой целью?", "Где взял свечу?", "Зачем пришел на площадь?", "Откуда спички?", "Имеется ли у вас жена?" і г.д.

На тле цывілізаванага жыцьця ў іншых рэспубліках усе гэта здаецца ірэальным.

1 т р а ў н я. Беларускі Народны Фронт прыняў рашэньне удзельнічаць у агульнагарадской Першамайскай дэманстрацыі асобнай калонай. Гарвыканкам імкнуўся усяляк перашкодзіць гэтаму. На заяву Аргкамітэта аб удзеле ў дэманстрацыі ад 19 красавіка уладамі быў складзены фенаменальны дакумент. У адным абзацы Фронту забараняліі удзельнічаць ў дэманстрацыі, а у наступным ... дазвалялі. Прадстаўнікі БНФ абскардзілі рашэньне Менгарвыканкама ў Савет Міністраў БССР. А 29 красавіка (выходны дзень) а 7.00 на кватэры аднаго з падаўцаў "петыцыі" зазваніў тэлефон. Старшы рэферэнт Саўміна А.Халастовіч паведаміў, што удзел у дэманстрацыі дазволены. Адначасна папрасіў прабачэньня, што паведамляе пра гэта па тэлефоне, а не афіцыйнай паперай. Маўляў, позна зьвярнуліся, выходны дзень, нікога няма і г.д.

Першага траўня, калі а 8.00 некалькі тысяч чалавек прыйшлі на дэманстрацыю, намесьнік начальніка Упраўленьня унутраных справаў Менгарвыканкама палкоўнік Макееў, ведаючы пра дазвол на калону БНФ, ветліва запытаўся: "Якім маршрутам вы пойдзеце і ці патрэбная якая-небудзь дапамога з боку міліцыі". (Малайчына палкоўнік Макееў!). Толькі потым ен пайшоў раіцца са "штабам". (А "штаб" -- гэта ў асноўным гаркам партыі.). "Штаб" самавольна забараніў праход калоны БНФ па Ленінскім прасьпекце. Неверагодна! Забараніць людзям удзельнічаць у Першамайскай дэманстрацыі!

У гэты ж час прасьпект перакрылі ланцугі міліцыянтаў, а сярод людзей зьявіліся два гаркамаўскія работнікі, якія праз мегафоны пачалі дэзінфармаваць прысутных. Людзі паслухалі іх, паляскалі ў ладкі, пасьмяяліся, колькі разоў выгукнулі: "Слава КПСС!" і адыйшлі. Неўзабаве групы падтрымкі разгарнулі гукаўзмацняльную апаратуру, і пачаўся мітынг салідарнасьці з дэмакратычнымі рухамі ў іншых рэспубліках. Хвілінай маўчаньня была ушанаваная памяць забітых 9 красавіка у Тбілісі. Мітынг цягнуўся гадзіну. Выступалі менчукі, прадстаўнікі групаў падтрымкі з Брэста і Магілева, сябра Сойму "Саюдзіса" Г.Сангайла. Была зачытаная вітальная тэлеграма з Арменіі. Потым, бачачы, што "штаб" групуе міліцыю, мітынг па просьбе арганізатараў быў скончаны. Адно дзьве надзьмутыя геліем гронкі паветраных балёнаў узьнялі ў неба бела-чырвона-белыя сьцягі і панесьлі ў бок перакрытай міліцыяй плошчы Леніна. Удзельнікі ж мітынгу вырашылі пазьбегнуць канфлікту і пайсьці ў адваротным кірунку -- праз увесь горад у Курапаты.

Так заўседы было у нашым народзе: калі чалавеку становіцца нясьцерпна трываць мярзотнікцтва, ен ідзе на магілы продкаў, каб падтрымаць свой дух. Патрэбнае ачышчэньне, каб узвысіцца над зьнявагай. Яно адбылося, калі людзі ўкленчылі на сьвятым

месцы, калі маучалі з нахіленымі сьцягамі, калі чытауся верш С.Палуяна "Хрыстос уваскрос!", калі ускладалі кветкі на магілы забітых, калі гучэла "Ойча наш..."

Гэта было незабыунае відовішча: больш чым кіламетровая калона Фронту у луналі бела-чырвона-белых сьцягоу, з каляровымі выявамі гербоу беларускіх гарадоу, з "Пагоняю", транспарантамі, кветкамі і сьпевамі прайшла па вуліцах і мікраранах. "Жыве Беларусь!", "Жыве Беларускі Народны Фронт!" крычалі у калоне. "Жыве!" -- адказвалі з балконау і вокнау. Каб жа яшчэ палова напауняскованага і студэнцкага Менску не разьехалася на Вялікдзень...

Пасьля Курапатау частка людзей, каля тысячы чалавек, накіравалася праз увесь горад да помніка М.Багдановічу. Калі на шляху у Курапаты міліцыя нават садзейнічала калоне, дык тут пачаліся прычэпкі да сьцягоу (відаць, зьявіліся новыя указаньні "штабу"). Тым ня менш, зрабіушы 15-цікіламетровы марш пад сьпякотным сонцам, людзі дайшлі да помніка, ускалалі кветкі, разгарнулі і схілілі у памяць вялікага паэта сьцягі, прасьпялі ягоную несьмяротную "Пагоню". Толькі каля 17.00 скончыуся гэты амаль 9-цігадзінны "марафон".

А у наступныя дні распачалася знаемая вандэйшчына. Людзей пачалі выклікаць у міліцыю за удзел у ... Першамайскай дэманстрацыі. Прытым, асобау маладзейшых і менш сацыяльна абароненых нарады міліцыі увозілі проста з працы. Іншым дасылаюць позвы. Карацей, вандэя ты наша, вандэя, хто цябе выдумау.

● ПРАЦЯГ ВЯКОУ

На белай кашулі чырвоны пісяг
Ад злосьці падступнага меча.
Бел-чырвона-белы балючы сьцяг
Склікае на смутнае веча.

На веча,
Дзе у вечнасьці мусім спытаць,
Ці нам заставацца народам,
Ці толькі аб'едкі надзеі спытаць,
І моукнуць, і глыбіцца у одум.

Ці нам у агульным застольлі людзей
Паблізу ля покуця сесьці,
Ці ціха чакаць, каб які дабрадзей
Наш хлеб не пярэчыу нам есьці.

Узьвіуся, як крык, на крыжацкіх касьцях
І погань кіруе у прадоньне
Бел-чырвона-белы крывіцкі сьцяг
У вечным памкненьні Пагоні!

7 лістапада 1988. Рыгор Барадулін
(Верш перадрукаваны зь бюлетэня "Весткі Адраджэньня", 1'1989.).

---

Па тэхнічных прычынах набор гэтага тэксту зроблены без трох літарау беларускага алфавіта. У наступных выпусках паспрабуем ліквідавць гэты недахоп.

Выпуск падрыхтавалі А.Кавальчук, С.Драч.